 


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 37 (916) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 16 ВЕРАСНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.


КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## АГАРОДНІКІ

Агароднікі — вёска (гміна і павет Сямяцічы), што раскінулася на пагорках правага берагу Буга, які тут даволі крута паварочвае з паўночнага захаду на захад, і, пераплыўшы каля паўтара кіламетра, зноў вяртаецца да папярэдняга паўночна-заходняга напрамку. Пры вёсцы рака ўтварае маляўнічы пясчаны плёс. У Агародніках цяпер звыш 50 гаспадарак і больш 200 жыхароў.

Назва „Агароднікі“ паходзіць, мабыць, ад малазямельных і беззямельных сялян, якіх у сярэдневякоўі называлі „агароднікамі“ або „загароднікамі“. Звычайна „агароднікі“ былі надзелены невялікім кавалкам зямлі (агародам) і мелі абавязак выконваць розныя павіннасці ў пана. Часам „агароднікі“ займаліся рознымі рамёствамі. У другой палавіне XVI стагоддзя землі цяперашніх Агароднікаў належалі да Драгічынскага старостыа, але сама вёска ў вядомых мне дакументах не ўпамінаецца.

Мясцовыя назвы ўрочышчаў: Городіско (знаходзіцца ў паўтара кіламетрах на захад ад вёскі), Могылкі (у якіх трохстах метрах на захад ад вёскі); палёў: Загороде, Копрыва, Борыско (побач знаходзіцца кавалачак лесу), Пісчанка; луг — Доўгі Лес (раней надта гразкае балота, цяпер асушанае меліярацыяй); канцы вёскі: Капкас (усходні), Городнікі (сярэдзіна) і Болотте (заходняя частка, за лугам, што над азярынаю). Назвы паваротаў ракі Буга: залом Мэнжынскі (насупраць вёскі Мэнжэнін, якая знаходзіцца на левым беразе ракі, амаль насупраць Агароднікаў), залом Лішкі і залом Воліньскі (недалёка ад вёскі Вольнка). Ад усходу за вёскай плыве рэчка Турыска (Турна), ад захаду — Мутна (Мэнтна).

Некаторыя прозвішчы жыхароў, што здаўна жывуць у Агародніках: Гуменяк, Дмітрук, Леванюк, Пытэль, Сідорчук, Сутэнэць.

Мясцовы старажыл Антон Пытэль (1901 года нараджэння), якога „дієд і батько тут жылі“ выводзіць назву Агароднікі ад назвы ўрочышча „Городіско“: „тут якось вонэ было міесто, звавсе „город“, там і тэпэр шчэ ест пудмуруовкі, там і кості ліежат розные. Як то быв город, то так мы — городнікі“.

І я рушыў у пошукі „городіска“. У паўтара кіламетрах на захад ад Агароднікаў, там, дзе рака Буг крута паварочвае з заходняга кірунку на паўночна-заходні, пры самым беразе ўзвышаецца парослы зрэдку таполямі і ядлоўцам пагорак. Яго размывае „высокая“ вада ра-

(Працяг на стар. 3)


Там, дзе магутнае русла Буга паварочвае з заходняга кірунку на паўночна-заходні.

## ПРА МІХАЛОЎСКУЮ МАЛАЧАРНЮ І ПРА СМЯРДЗЮЧАЕ ПАВЕТРА

У нашу рэдакцыю паступіў сігнал, што міхалоўская малачарня атручвае паветра, выліваючы поўнавартасную сыроватку ў навакольных лясах і на палях. Такіх сігналаў мы не пакідаем без водгуку. Дык паехаў я ў Міхалова, каб праверыць, як яно сапраўды ёсць.

У Міхалоўскай малачарні прывітала мяне маладая яе загадчыца, пані **Ёлянта Гузейка,** якая ўжо пяты год тут працуе, а трэці — кіруе гэтым прадпрыемствам. З яе пакойчыка, як на далоні, відаць прадукцыйную частку малачарні. Людзей тут нямнога, корпаліся яны неяк сонна. Можа гэта таму, што набліжалася ўжо 10-ая гадзіна раніцы і пастаўшчыкі малака даўно адправіліся дамоў.

— Прадпрыемства, якім я кірую, — гаворыць пані Гузейка, — параўнальна невялікае. Працуе ў нас 25 чалавек. У суткі мы прымаем і перапрацоўваем 45—55 тыс. літраў малака. Самымі актыўнымі пастаўшчыкамі малака з'яўляюцца ў нас скупачныя пункты ў Міхалове і ў Шымках, якія дастаўляюць у суткі па 4.000 літраў. З Гарадка атрымоўваем мы 3.000 літраў, а Страшава і Навасады дастаўляюць па 2.500 літраў, Каралёў Мост — 2.000 літраў. З гэтага малака мы робім масла і казеін. Дзве тоны масла кожны дзень адпраўляем мы на экспарт у Югаславію. Плануем распачаць выпуск новага вырабу: спажывецкага казеіну. Яго будуць праўдападобна пастаўляць аж у Японію. Між іншым дзеля гэтага ў наступным годзе нашае прадпрыемства будзе грунтоўна адноўлена. Неабходна пабудаваць новую катлоўню, выменіць машыны і пашырыць прадукцыйны цэх...

Слухаю і старанна запісваю словы маладзенькай загадчыцы. Але з галавы не выходзіць мне асноўная мэта майго прыезду: што з гэтай сыроваткай? Пачынаю асцярожна, здалёк, каб адразу не напалохаць.

— У час перапрацоўкі малака, — гавару, — застаецца маслёнка і сыроватка. Што вы робіце з гэтымі прадуктамі?

Працяг на стар. 4

## ПАНІ ДЫРЭКТАР



Калі ўваходзіш на маленькі, але дбайна памаляваны і чысценькі калідорчык, не адразу кідаецца ў вока сярод іншых дыпломаў, старанна апраўленых у рамкі і развешаных на сценах, адзін з іх, які расславіў ва ўсёй нашай краіне гэтую невялічкую вясковую школку. З яго даведваемся, што „На тэлевізійным конкурсе па гісторыі для вучняў восьмых класаў у 1970/71 школьным годзе трохасабовая група вучняў з Пачатковай школы ў Навасадах Гайнаўскага павету заняла д р у г о е месца“.

У дыпломе не сказана, што да конкурсу прыступіла некалькі тысяч гарад-

Працяг на стар. 4

## DO DYREKTORÓW I NAUCZYCIELI SZKÓŁ Z NAUKĄ JĘZYKA BIAŁORUSKIEGO

*W działalności całego systemu państwowego istotną funkcję spełniają środki masowej propagandy. Stanowią one jeden z głównych instrumentów inspiracji oraz mobilizacji narodu do twórczego wysiłku w dziedzinie budownictwa socjalistycznego i podnoszenia dobrobytu ludzi pracy, a także w sposób rzeczywisty uczestniczą w procesie kierowania przemianami społecznymi i politycznymi".*

*(z Uchwał VI Zjazdu PZPR)*

Wydawany przez Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch" tygodnik białoruski „Niwa" — organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego zyskuje coraz szersze kręgi czytelników. „Niwa" informuje społeczeństwo o najważniejszych wydarzeniach międzynarodowych, aktualnych problemach polityki ekonomiczno-gospodarczej oraz życiu kulturalnym ludności białoruskiej, zamieszkałej w południowo-wschodnich powiatach Białostocczyzny. Tygodnik publikuje także wiele interesującego materiału o problematyce wiejskiej. Na łamach „Niwy" czytelnik znajduje ciekawe pozycje z historii i rozwoju literatury białoruskiej.

Dlatego też pismo wykorzystywane jest jako literatura uzupełniająca przy nauczaniu języka białoruskiego.

Zwracamy się do Dyrektorów, Nauczycieli i pracowników oświaty z uprzejmą prośbą o wykazanie maksimum wysiłku w upowszechnianiu prenumeraty „Niwy". Od Was zależy, w jakim stopniu młodzież szkolna sięgnie po bogaty serwis informacyjny i publikacje stałe. Jesteście gronem ludzi, którzy poważnie decydują o ilości egzemplarzy uzyskanej prenumeraty. Zwracajcie się do urzędów pocztowych, listonoszy i oddziałów „Ruch", którzy chętnie zrealizują zamówienia na prenumeratę. Cena prenumeraty rocznej wynosi 28,80 zł, półrocznej — 14,40 zł, kwartalnej — 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty.

Jesteśmy przekonani, że nasz apel znajdzie pełną aprobatę i zrozumienie wszystkich pracowników szkolnictwa. Wierzymy, że nie zabraknie twórczej inicjatywy i wspólnego wysiłku, aby pozyskać jak największą ilość prenumeratorów wśród uczącej się młodzieży.

Wyrażamy nasze gorące podziękowanie za dotychczasowy Wasz wkład w rozwój prenumeraty. Jednocześnie liczymy na Wasz twórczy wysiłek, zrozumienie i pomoc.

BIAŁOSTOCKIE WYDAWNICTWO PRASOWE
RSW „KSIĄŻKA-PRASA-RUCH"
KURATORIUM OKRĘGU SZKOLNEGO BIAŁOSTOCKIEGO

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“




Хлеб з сёлетняга ўраджаю. (З Цэнтральных дажынак-73 у Беластоку). Фота А. Карпюка.

 

 © PDF: Kamunikat.org 2023

ў Міхалоўскі скупачны пункт 50—60 літраў малака.

— А вось сыроваткі, — кажа гаспадар, — я сёння не дастаў, нібы не хапіла. А ў той жа час гэтую ж сыроватку шафёры з міхалоўскай малачарні разліваюць дзе папала. Проста адкрые кран і імчыцца па дарозе. Я сам бачыў. Зайдзіце вось на гэты хутар, — паказвае рукой. — Там жыве старшыня нашага камітэта пастаўшчыкаў. Ён вам усё дакладна раскажа.

— З гэтай сыроваткай у Міхалове — адзін скандал, — гаворыць гаспадар з хутара. — Выліваюць яе, дзе толькі могуць: па шашы, у лесе, а найчасцей у старой жвіроўні за Міхаловам. А калі за сыроваткай заедзеш у малачарню, то трэба стаяць у чарзе па некалькі гадзін, ды яшчэ плаціць па 3 грошы за літр, а часта і з пустымі конвамі дамоў вяр-



**Ёлянта Гудзейка ўжо тры гады кіруе малачарняй, якая атручвае асяроддзе ў раёне Міхалова.**

таешся, час толькі патраціўшы...

На ўзгорку за Міхаловам сярод маладзенькага лесу знаходзіцца гарадскі сметнік. Непадалёк жыве адзін з Міхалоўскіх хутаранцаў.

— Пане, — гаворыць ён мне, — мы ўжо тут ледзь вытрымоўваем — такі смурод ідзе ад гэтай сыроваткі. Яна тут часта ракой льецца. Часам па два разы ў дзень прывозяць і выліваюць. Ніякай кары няма на іх.

Сапраўды, на засохшай у летняй спёцы зямлі засталіся толькі белыя плямы і кіслы смурод, разлажыўшагася бялка. Так, напэўна хтосьці тут не так даўно выліваў гэтую няшчасную сыроватку. Іду, аднак, яшчэ распытаць уласніка поля, на якім знаходзіцца гэты сметнік.

— Звозяць туды з цэлага Міхалова розную заразу, — скардзіцца гаспадар. — З малачарні таксама. Смурод ад гэтага сметніка ідзе такі, што я не магу працаваць на полі.

Яго хутар адной мяжой прымыкае да рэчкі Супраслі, ў якой цячэ мутная, смярдзючая вада.

— Тут нават, — гаворыць гаспадар, — жабы паздыхалі, а мае каровы п'юць гэтую ваду, бо што маюць піць? Гэта таксама віна міхалоўскай малачарні...

Дык як: хто тут хлусіць? Без міліцыі не разбярэш. Але дзверы міхалоўскага пастарунку МО аказаліся наглуха закрытымі, а ў закратаваным акне прачытаў я картку, што дзяжурны міліцыянер знаходзіцца ў горадзе. Рашыў я тады звярнуцца да самай вышэйшай міхалоўскай улады — да начальніка гміны.

— Так, гэта праўда, — кажа Міхась Грыка, — што рэчка Супрасль ад Міхалова аж па Гарадок ужо зусім атручана. Але таксама праўда, што дагэтуль ніякіх скаргаў на міхалоўскую малачарню ў сувязі з загаспадараваннем сыроваткі мы не атрымоўвалі...

Паўторна я наведаў загадчыцу міхалоўскай малачарні. На гэты раз размова не была прыемнай. Аднак пані Ё. Гудзейка не адступіла ад свайго. Усё тое, аб чым гаварылі мне сяляне, назвала яна зласлівай хлуснёй.

— Нас не аднойчы кантралявалі не такія, як вы, — дабавіла разгневана, — а нават прадстаўнікі аддзела аховы вады і паветра, ды ніякіх адхіленняў ад норм дагэтуль яны не сцвердзілі.

Што ж, аказваецца аднак, што без міліцыі тут усё ж не разбярэшся. А можа яшчэ раней захацеў бы пацікавіцца дзейнасцю міхалоўскай малачарні прэзідыум ПРН у Беластоку і праўленне Беластоцкай малочнай спулдзельні, якому падпарадкаваны яго міхалоўскі філіял?

**Віктар Рудчык**
фота аўтара

# ФАЛЬКЛОР

### *ЧАРНУШНАЯ**

*Lento cantabile*

Ой, во-лы мо-е по-ло-вэнь-кі-е, Чом жэ
вы нэ о-рэ-тэ? Ой, ле-та мо-е мо-ло-
дэнь-кі-е, чом вы мар-но так і-дэ-тэ?

*Ой, волы мое половэнькіе,*
*Чом жэ вы нэ орэтэ?*
*Ой, лета мое молодэнькіе,*
*Чом вы марно так ідэ(тэ)?*
*Ой, пуйду туды, ой, пуйду туды,*
*Куды ліетом ходіла.*
*Ой, чы нэ знайду, ой, чы нэ знайду,*
*Кого віерно любі(ла)?*
*Ой, сэ нэ його, ой, сэ нэ його —*
*То товарышча його.*

*Запытаюсе, запытаюсе*
*О здоровіечко ё(го).*
*— Ты нэ пытайсе, ты нэ пытайсе*
*О здоровечко його,*
*Но запытайсе, но запытайсе,*
*Якое жыте ё(го).*
*— Нэ буду лгаті, нэ буду лгаті,*
*Оно правду казаті:*
*Як Бог назначыў, як Бог назначыў,*
*Так будэм гороваті.*

Ад Анны Стахвіюк, 1924 года нараджэння, вёска Трасцянка Гайнаўскага павету, запісаў 2 жніўня 1973 года Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.

* „Чарнухаю" калісьці ў Трасцянцы называлі час, калі сяляне аралі „ў загон", г. зн. пад засеў азімаі жыта.




**(З РОЗДУМАЎ СЫМОНА МУДРАГА)**

Да гадзіны дзесятай 23. чэрвеня 1973 г. стаяў сабе, міленькія мае, у вёсцы Валілы дом нумар 18. Такі сабе, звычайны, драўляны. Зараз побач з крамаю.

Гаспадары выехалі недзе пад Бельск, а ў доме тым жылі кватаранты. У адной палавіне — сям'я Дзярманскіх, а ў другой — Анастасія Паплаўская, бабулька год звыш 70. Быў дом... і ўжо яго няма. Узяў ды згарэў...

„Як гэта ўзяў ды згарэў", — спытаеце. — Не сам жа?!" А ліха яго ведае, як! Згарэў і ўсё. Бабка, на палавіне якой пажар пачаўся, сама ад агню ўцякла. Дзяцей Дзярманскіх, Адася і Андрэя, хлапчукоў дашкольнага ўзросту, вывела з хаты дванаццацігадовая Аня Тарасевічава. Калі Марыя Дзярманская прыбегла з поля (муж яе быў на рабоце), цяжка ўжо было што-небудзь ратаваць. З усяе сямейнае маёмасці засталіся толькі тапчан, тэлевізар ды пралька. Шафа з вопраткай і тая згарэла. Горш за ўсё, што разам з шафай згарэлі прыхаваныя ў ёй 23.000 зл. 15 тысяч свежа атрыманай на пабудову хлява пазыкі і 8 тысяч сямейных ашчаднасцей.

„Вось дзіва! — скажаце. — Бывае, паўвёскі гарыць. Разумныя людзі страхуюцца ў страхавой касе, атрымліваюць адшкадаванне, ды яшчэ рукі паціраюць, што старое барахло нарэшце згарэла".

А тут і загвоздка. Страхоўка ж была. Уся справа, аднак, у тым, што за грошы, якія трымалі ў хаце, страхавая каса адшкадавання не плоціць. Грошыкам належала быць у СОП-е альбо ў ПКО. Ашчадныя кніжачкі маглі б сабе спакойна ісці з дымам. Сума, пакладзеная ў банку, ад гэтага не мянялася б. Нават працэнцікі далей акуратна раслі б.

А вось хрупасткія паперкі — справа іншая. Пшык і няма.

Т-а-а-к! Тут варта прызадумацца. Па-рознаму, за мае памяці, людзі грошы хавалі.

Памятаю, маленькім яшчэ я быў, калі мой дзед увесь агарод на паўметра глыбіні тройчы перавярнуў, шукаючы гаршчэчка з манетамі, што пад капустай закапаў.

Манет, праўда, не знайшоў дзядуля. Затое агуркі ды памідоры такія, як на ягоным агародзе, больш ні ў кога не ўдаваліся.

У даваенны час зноў усялякаму гаспадару вядома было, што найлепшая справа — грошы ў шматачку завязаць ды бабе пад цыцку ўткнуць. Што ж, калі вайна людзей разбэсцвіла. Надта ж нахабны народ пайшоў. Калі толькі баба прыгажэйшая, дык не паспееш на кірмашы азірнуцца, як ужо ёй які хлуст за сарочку заглядае, а дзе каторы так і стараецца падшчыпнуць за гэта самае якраз месца. Страшна...

Пачалі тады, ведаеце, па хатах ашчаднасці ў панчохі запіхваць. І што ж? Якісьці час вялося. Часы, вядома, былі бедныя. Мала якая гаспадыня больш дзвюх пар панчохаў мела. Няцяжка было разабрацца. Калі аднак прамысловасць нашы крамы шматкамі закідала, пачалася неразбярыха. Ох і загаласілі кабеты: „Ой, у якія ж я іх панчохі палажыла?.. А можа ў тыя ўзорчатыя? Не! У тых на забаву хадзіла. А можа ў безразмерныя? А можа ў тыя каляровыя, што дачцы купіла?"

Паспрабуй знайдзі, калі панчохаў у хаце цэлы скрутак. Па ўсіх кутках валяюцца. А калі ў моду ўвайшлі тыя, як іх там, райстопы, дык зусім бяда.

Нездарма ў нашай вёсцы прыбліва, калі маеш бабу шырэйшую задам.

Адным словам, адпаведных месц у хатах і на панадворках забракла.

Пачалі людзі памаленьку зносіць свае грашакі ў ашчадныя касы.

І, паверце, дагэтуль нікому шкадаваць не давялося.

**Нездарма** ў нашай вёсцы прыказка ходзіць: „Давер свае грошы СОП-у, каб выпадкам не ўпёр іх... ну, скажам, напрыклад, хоць бы і ў агонь".

Сям'і Дзярманскіх, даражэнькія, напэўна бяда. Прытуліліся яны ў адным пакойчыку пры бацьках.

Вопраткі на зіму і той не маюць. Вялікая, аднак, сіла грамадства.

Рабочыя ПГР-у Валілы, у якім працаваў Дзярманскі, зрабілі адразу складчыну, каб дапамагчы пацярпеўшаму сябру. Жыхары Валілаў: Марыя Сарачынская, Марыя Адамчык, Адэля Чамель, Зіна Тарасевіч, Кацярына Чварно, Ліля Неміровіч, Галіна Квяткоўская, прадаўшчыца ПГР-аўскай крамы Сядлецкая, ды іншыя, кінуліся памагаць, хто чым можа.

Каса СОП-у, якой загадваюць таварышы Барада і Аўсейчык, прызнала грашовую запамогу і адклала на пару год сплату ўзятай пазыкі. Запамогу без ніякай валакіты прызнала і гміна. Сяброўка Ларыса Матусік запэўнівае, што грамадская апека напэўна паможа вопраткай. Марыі Дзярманскай дрыжэў голас, калі ўспамінала ўсіх добрых людзей, якія самі па сабе адгукнуліся на бяду яе сямейкі, падалі ў патрэбе моцную сяброўскую руку. Усім яна шчыра, шчыра дзякуе і ўсіх запрашае на наваселле.

Так! Так! Кіраўніцтва ПГР Валілы прызнала сям'і Дзярманскіх прыгожую кватэру ў адным з двух новых блёкаў, якія зараз у будове.

Праўду кажуць старэйшыя: што між дрэнных людзей шчаслівым быць цяжка, а вось паміж добрымі — лёгка і ў няшчасці.

**Ларс**




Сяляне не маюць замнога вольнага часу на тое, каб магчы прачытаць газету або кніжку. Хіба толькі позняй восенню ды зімою. Зараз Эля Паўлік, маладая бібліятэкар са Страблі Бельскага павету, не наракае, што ўлетку чытачы радзей заходзяць, каб выбраць сабе тую ці іншую кніжку. Мае яна таксама сваіх сталых наведвальнікаў. У летнія месяцы Эля наводзіць генеральныя парадкі ў бібліятэцы, абгортвае ў свежую паперу новыя, толькі што закупленыя кніжкі, рыхтуе выстаўку цікавейшых кніг, парадкуе каталогі. Працы хоць адбаўляй. Яна займае ўвесь вольны час. У бібліятэку ў Страблі заходзяць па кніжку не толькі аднавяскоўцы, але і з Дакторцаў і Яцэвічаў. Апрача таго бібліятэка мае бібліятэчныя пункты, з якіх найлепш працуюць пункты ў Мулявічах (вядзе яго кіраўнік клуба „Руху" Ядвіга Крупкоўская), у Сталавачу (Яніна Крысевіч), у Гусаках (Ірэна Петручук) і Плюцічах (дырэктар школы Аляксандр Артымовіч). Бібліятэкар стараецца даехаць да кожнага з іх. Прывозіць з сабой новыя кніжкі на абмен, заўсёды ахвотна дапаможа і параіць прачытаць тую ці іншую кніжку. У самой Страблі мае яна 160 чытачоў, а ва ўсіх бібліятэчных пунктах 330. Лік гэты даволі вялікі ў параўнанні да колькасці жыхароў. Бібліятэка, якой кіруе Эля Паўлік, налічвае каля 6 000 кніжак, у тым ліку каля тысячы беларускіх і рускіх кніжак. Найбольш кніжак чытаюць: Аліцыя Кур, Юзэф Сахароўскі, Дануся Паплаўская, Галіна Левандоўская, Марэк Пракопюк. Усе са Страблі. Многа сталых чытачоў маюць таксама бібліятэчныя пункты.

Бібліятэкар арганізуе таксама шматлікія чытальніцкія конкурсы, вечарыны казак для дзяцей, аўтарскія сустрэчы і г.д. Любіць яна працу ў бібліятэцы і задаволена ёю. У бібліятэцы лад і парадак.



Кніжкі роўнымі радамі стаяць на паліцах. На століках — свежая прэса, кветкі.

Сімпатычная бібліятэкар працуе тут ужо трэці год. Бібліятэку пераняла ад бацькі, які таксама быў бібліятэкарам. Зараз заканчвае яна вучобу ў завочным агульнаадукацыйным ліцэі ў Беластоку.

**Тэкст і фота Я. Цялушэцкага**



 © PDF: Kamunikat.org 2023

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# ІМУНАЛОГІЯ СЛУЖЫЦЬ АНКОЛАГАМ

У Інстытуце генетыкі і цыталогіі АН БССР створана першая ў Савецкім Саюзе лабараторыя імунагенетыкі рака. Вынікі даследванняў усяляюць надзею: каварную хваробу, напэўна, можна будзе перамагчы, мабілізаваўшы для гэтага імунныя сілы арганізма.

### НОВЫ ПОГЛЯД НА ПРАБЛЕМУ

Аб раку вядома даволі многа — значна больш, чым, скажам, аб ангіне або любым іншым распаўсюджаным захворванні. „Вірусная", „хімічная", „вірусна-генетычная" і іншыя тэорыі „са стажам" добрасумленна называюць прычыны з'яўлення тканкавых анамалій, вывучаючы паталогію хваробы...

І ўсё-такі сёння рак гэтак жа не паддаецца лячэнню, як і год 70 назад, калі анкалогія рабіла свае першыя крокі. Прычыны такога парадокса ў тым, што ўсе існуючыя да гэтага часу тэорыі аднабакова этыялагічныя. Яны факусіруюць сваю ўвагу толькі на прычынах, якія прыводзяць да перараджэння нармальных клетак ў ракавыя. Заканамернасці ж развіцця пухліны ў арганізме і ўзаемаадносіны яе з клеткамі „гаспадара" да канца не вывучаны і па гэты дзень.

А што калі зірнуць на сутнасць рака знутры, „апусціўшыся" да ўзроўню яго генетычнай мадэлі? Над гэтым у апошнія гады ўсё часцей задумваюцца вучоныя-анкалогі многіх краін.

Перавагі такога паглыбленага падыходу да праблемы відавочныя: зразумеўшы генетычны механізм узнікнення і развіцця злаякаснай пухліны, даследчыкі атрымаюць вычарпальныя даныя аб розных баках хваробы і змогуць падказаць медыцыне эфектыўныя метады яе лячэння.

Генетычная канцэпцыя па-свойму шматпланавая, але, бадай, найбольшую цікавасць у ёй выклікае сёння імунагенетычны напрамак. Беларускія вучоныя ўзяліся вывучаць прычыны развіцця пухлінных клетак ва ўмовах несумяшчальнасці.

### РАСПАЗНАЦЬ НЕВІДЗІМКУ

Такім чынам, славутая формула „антыген-антыцела" ў ракавым варыянце часта не дзейнічае. Чужародная пухлінная клетка, што ўзнікла ў выніку мутацый клетак „гаспадара", пачынае нястрымана размнажацца, утвараючы папуляцыю чужародных арганізму паразітычных клетак.

Чаму? Медыцыне ж добра вядома імунная неўстрымлівасць арганізма, які звычайна адхіляе не блізкія яму па генетыпу тканкі. Успомнім хоць бы, якія цяжкасці ўзнікаюць у хірургаў пры трансплантацыі органаў...

Такая дзіўная ўласцівасць арганізма не перашкаджаць росту ў ім чужародных клетак стала вядома пад назвай імуналагічнай талерантнасці.

Існуюць некалькі гіпотэз аб прычынах яе развіцця. Адны называюць талерантнасць своеасаблівым імуналагічным паралічам, які надыходзіць пры пападанні ў арганізм у эмбрыянальным перыядзе антыгенаў. Другія тлумачаць „слепату" арганізма да чужародных прышэльцаў гібеллю імунакампетэнтных клетак „гаспадара", якая надыходзіць у выніку таго самага ўварвання антыгенаў...

Беларускія вучоныя схільны лічыць, што талерантнасць абумоўлена скажонай імуналагічнай рэакцыяй у арганізме, якая і прыводзіць да захавання ў ім чужародных пухлінных клетак.

Падзеі развіваюцца прыкладна так. Ракавая пухліна, як гаварылася, уяўляе з сябе папуляцыю розных па сваёй спадчыннасці клетак з розным наборам храмасом. Антыцелы арганізма, якія пры дастатковай іх колькасці эфектыўна разбураюць чужыя клеткі, у выпадку скажонага імуналагічнага адказу не толькі губляюць здольнасць процідзеяння, але нават могуць узмацняць пухлінны рост. Пастаянна змяняючы пад уплывам антыцел сваю храмасомную структуру, пухліна быццам выслізгвае ад імунітэту „гаспадара", які не паспявае за „невідзімкай".

Выхад?

— Неабходна распрацаваць імуналагічныя метады зняцця талерантнасці арганізма да пухлінных антыгенаў, — гаворыць кіраўнік лабараторыі Георгій Краскоўскі. — Трэба пераадолець ракавую анергію, малібізаваўшы магутны, у прынцыпе, апарат імунітэту, навучыцца свядома кіраваць ім. У гэтым, як відаць, будзе прынцыповае адрозненне імунатэрапіі рака ад традыцыйных метадаў лячэння.

### У ЭКСПЕРЫМЕНЦЕ РАК

Час, калі ракавая імунатэрапія стане звычайным клінічным метадам, сёння назваць яшчэ цяжка. Заўчасна гаварыць і аб практычнай форме новага лячэння: пераварот, як гэта нярэдка здараецца ў навуцы, можа зрабіць зусім нечаканая знаходка...

Сёння супрацоўнікі лабараторыі вядуць карпатлівую „чарнавую" работу, адзяваючы здабытымі ў доследах фактамі рабочую гіпотэзу. Рак тут узнаўляецца ў эксперыменце. Методыка, па якой вядуць даследванні, адначасова і простая і надзвычай складаная.

У спецыяльным віварыі сабрана калекцыя так званых інбрыдных мышэй, атрыманых у выніку пастаяннага скрыжавання блізкіх пар. Таму генетычныя прыкметы іх выраўнаны і прасочваюцца ў „чыстым" выглядзе. Дзве лініі жывёлін, напрыклад, высокаадчувальныя да рака. Кантрасная лінія, наадварот, устойлівая нават да ўздзеяння канцэрагенаў.

Тысячы „чаму" і „як" узнікаюць у біёлагаў, калі пад мікраскопам з'яўляецца чарговы варыянт прэпарату з пухліны. Аднак сцежка ў нетрах нявывучанага намечана правільна.

Калектыў лабараторыі апублікаваў ужо ў навуковых зборніках больш за 50 работ, выйшла ў свет таксама грунтоўнае даследванне „Імунагенетычныя асновы ракавай анергіі".

Дасканальна ўстаноўлена, што схільнасць да раку наогул і канцэрагенных фактараў яго ўзнікнення залежыць ад генатыпу арганізма. Доследамі таксама даказана, што адчувальнасць да самаадвольнага ўзнікнення рака ідзе паралельна з канцэрагенным працэсам.

І, нарэшце, найбольш цікавы вынік, які, безумоўна, паслужыць метадалогіяй далейшых пошукаў, — вывад аб тым, што канцэрагены маюць таксама і імунадэпрэсіўныя ўласцівасці — падаўляюць утварэнне антыцел, якія здольны змагацца з пухліннымі клеткамі. А калі гэта так, калі ёсць рэчывы, якія падаўляюць проціракавы імунітэт, значыць, ёсць рэчывы, якія павышаюць яго, здольныя зняць талерантнасць. Калі пошук іх увянчаецца поспехам, суадносіны сіл зменяцца ў карысць імунітэту, і арганізм зможа адхіліць злаякасную тканку.

**Вячэслаў Хадасоўскі**
**(„Голас Радзімы")**



**У лабараторыі нехрамасомнай спадчыннасці Інстытута генетыкі і цыталогіі АН БССР.**

## Куток практычных ведаў




### РЭЎМАТЫЧНАЯ ХВАРОБА У ДЗЯЦЕЙ

Скончылася лета, калі клапатлівыя мамы вазілі сваіх дзяцей на мора, каб папраўіць іх здароўе. Надыходзіць восень, а разам з ёю абвастраюцца шматлікія хваробы ў дзяцей. Халодная пагода, прастуда, на жаль, спрыяюць гэтаму.

Ангіна, васпаленне горла, гнойныя міндаліны, парахніца зубоў — усё гэта „прыгрыўкі" да ўзнікнення ў дзяцей грознай рэўматычнай хваробы. Зразумела, не кожнае дзіцё, якое хварэе ангінай, абавязкова будзе мець рэўматызм. Аднак заражэнне пацяркоўцамі (стрэптакокамі), якое выклікае ўсе гэтыя захворванні, з'яўляецца таксама прычынай і рэўматызму, таму заражэнне вельмі лёгка пераходзіць на суставы ці сэрца. Менавіта, сэрца. Як кажуць, рэўматызм ліжа суставы, а кусае сэрца. Кусае, таму што можа давесці да рэўматычнага васпалення сэрца, а нават да трывалага калецтва.

Прызнакі рэўматызму паяўляюцца найчасцей праз 8—20 дзён пасля васпалення горла ці парахніцы зубоў. Пры найбольш небяспечным відзе гэтай хваробы — рэўматычным васпаленні сэрца — у дзіцяці выступае аслабленне, неахвота да хадзьбы, дзіця становіцца бледнае, часамі ў яго баліць галава і суставы.

Ужо гэтыя сімптомы сведчаць аб тым, што з дзіцём адразу ж трэба ісці да доктара, тым больш, што хвароба гэта мае тэндэнцыю да паўтарэння.

Часамі рэўматызм праяўляецца вельмі гвалтоўным чынам — вострым васпаленнем суставаў, пухнуць ногі і рукі, чырванее скура, хворы адчувае вострую боль. Зразумела, дзіця робіцца слабое, у яго баліць галава і павышаецца тэмпература. Часцей за ўсё баляць у яго калені, косткі ног, рукі.

Што робіць дзіця адпорным на рэўматычную хваробу? Тое, што робіць яго адпорным на ўсе заразныя хваробы. Дзіця неабходна рацыянальна карміць, павінна яно дастаткова адпачываць і сачыць за асабістай гігіенай. Дзіця павінна прабываць шмат на свежым паветры, якое яго гартуе і робіць фізічна спраўным. Дзіця павінна ездзіць як найбольш на лыжах, каньках, санках. Гэта не толькі радасць, але і здароўе дзіцяці.

Маткам, дзеці якіх хварэлі рэўматызмам, варта напомніць, што пасля лячэння дзіцяці ў бальніцы, якое працягваецца часамі аж некалькі месяцаў, дзіця яшчэ не зусім здаровае. Яно патрабуе яшчэ вельмі добрай апекі, рацыянальнага кармлення, калі ж хвароба перайшла на сэрца, неабходна абмежаваць фізічны рух дзіцяці, яно не павінна стамляцца. Пасля хваробы рэўматызмам дзяцей неабходна асцерагаць перад новай сутычкай з бактэрыямі пацяркоўца, нельга дапускаць дзяцей да людзей, хворых нават звычайным грыпам.

**Эскулап**




Кругер вылупіў вочы. Перад ім стаяў незнаёмы чалавек. Побач, хаваючы ўсмешку, пераступаў з нагі на нагу Скляны.

Кругер хутка апамятаўся, рука яго міжвольна схапілася за пісталет.

Але афіцэр моцна прытрымаў руку.

— Хто вы? — запытаў Кругер, спрабуючы вырваць руку.

— Я капітан Шварцбрук, калі вам хочацца, — усміхаючыся, адказаў афіцэр. Кругер адскочыў да сцяны, схапіўшы са стала аўтамат.

— Гэта не Шварцбрук, Іван, каго ты прывёў?! — закрычаў ён.

— Супакойце свае нервы, лейтэнант. „Цыклон" распаўсюджваецца на ўсход".

Пачуўшы ўмоўны пароль, Кругер не выстраліў. Скляны не вельмі разумеў, што адбываецца.

— Рукі ўгору! — скамандаваў Кругер. — Хутчэй, хутчэй! Вось так! А цяпер выкладвайце: хто вы такі? Вы не капітан Шварцбрук. Я ведаю яго асабіста!

Мішэль усміхнуўся.

— Вы мяне абрадавалі, лейтэнант Кругер. Калі б вы не аказалі мне такой сустрэчы, вам было б дрэнна. Ваш радыст выклікаў у мяне падазрэнне, прызнаўшы мяне за Шварцбрука.

— Гаварыце больш зразумела!

— Вядома, я не капітан Шварцбрук. Але такое рашэнне камандавання. У Берліне паявілася такое падазрэнне: ці не паспелі рускія падмяніць вашу групу. Калі б і вы прызналі мяне за Шварцбрука, то самі разумееце...

Кругер павольна апусціў аўтамат.

— Я ішоў на рызыку, вядома, але цяпер усё ў парадку. Шварцбрук далучыцца да нас па дарозе. А пакуль камандаванне групай даручана мне.

— Я нічога не ведаю пра гэта!

— У тым уся і справа. Даведаецеся. Добра, развяжыце мой рукзак, там ёсць біклага з французскім каньяком. Мне яго падарыў перад адлётам генерал Крэбс.

Дасведчанасць і манера гаварыць крыху супакоілі Кругера. „Чорт ведае, што яны там, наверсе, могуць накруціць? — падумаў ён. — Хаця, вядома, каб прыкрыць ад рызыкі Шварцбрука, магчыма..."

— Няўжо вы думаеце, Кругер, — працягваў Мішэль, — што калі б я ішоў да вас не па сваёй волі, то наша размова ўсё яшчэ працягвалася б? Вас ужо даўно схапілі б.

Кругер быў разгублен. Не, вядома, ён не паверыў. Але страляць таксама не адважваўся. А раптам гэта праўда? Вельмі ўжо ўпэўнена трымае сябе гэты чалавек. І потым такое чыстае берлінскае вымаўленне...

— Але дзе гарантыя, што вы гаворыце праўду? І чаму я павінен перадаць вам камандаванне групай?

— Гарантыяй будзе прыбыццё Шварцбрука праз тры дні, а пакуль, дарагі Кругер, вам прыйдзецца падпарадкавацца.

Але Кругеру вельмі не хацелася расставацца са сваёй роляй камандзіра.

— Ваша імя і званне, — запытаў ён.

— Обер-лейтэнант абвера Фрыдрых Боле, а па дакументах старшы лейтэнант канвойных войск МУС Віліс Дуціс. — Мішэль дастаў з кішэні кіцеля пасведчанне. Кругер уважліва агледзеў яго. На фатаграфіі быў чалавек, які называў сябе Боле.

Мікола Скляны тым часам даставаў з рукзака вялікую біклагу. Павесіўшы аўтамат на плячо, ён заглянуў на паліцу, прыкрытую фіранкай, і знайшоў там некалькі вялікіх адліўных з зялёнага шкла чарак, што засталіся ў хаце з лепшых часоў.

Тры чаркі ён паставіў на стол. Госць адразу ж падышоў да стала і, узяўшы біклагу, напоўніў чаркі. Кругер па-ранейшаму стаяў ля сцяны, трымаючы аўтамат у апушчанай руцэ. Мікола не адважыўся прысесці да стала раней за лейтэнанта і таксама застаўся стаяць. Афіцэр сеў на лаўку спіной да Склянога і падняў чарку.

— Ну, здаецца, можна павіншаваць мяне з прыбыццём. Ды што вы на самай справе? Урэшце я застаў вас спячым, лейтэнант, і мог зрабіць, што хацеў. Чаго ж вы баіцеся. Адразу адчуваецца, што вы з франтавой разведкі. У абвера бываюць і не такія камбінацыі!

Але Кругер не спяшаўся. Ён сапраўды не быў вопытным разведчыкам. Яго роля ў аперацыях у асноўным заўсёды зводзілася да дыверсій. Калі трэба было падарваць мост або чыгуначную лінію, тут Кругер ні ў кага не пытаў бы парады. А ў гэтай сітуацыі ён ніяк не мог разабрацца.

— Іван, — звярнуўся ён, нарэшце, да Склянога, — ідзі і неадкладна запытай Цэнтр. Перадай такую радыёграму... — Ён задумаўся. — Як бы гэта сфармуляваць? Дай паперу, — ён чыркнуў некалькі лічбаў на лістку. — Вось.

— Слухаю, пан лейтэнант!

— Я буду тут, — Кругер зірнуў на прыбыўшага афіцэра. Той спакойна паставіў на стол чарку.

— Першую радыёграму павінен перадаць я, — сказаў Мішэль. — Акрамя таго, з гэтага часу, як камандзір групы, толькі я буду перадаваць радыёграмы. — Ён устаў з-за стала.

— Ні з месца! — закрычаў Кругер, зноў падымаючы аўтамат. — Прабачце, пан обер-лейтэнант, спачатку вы правяралі мяне, а цяпер я правяраю вас. Я не выпушчу вас жывым да таго часу, пакуль мне адкажа Цэнтр. Іван, адпраўляйся неадкладна!

Скляны, нібы ўзрадаваўшыся магчымасці выбрацца з гэтага пакоя, дзе з мінуты на мінуту магла пачацца перастрэлка, хутка выйшаў, шчыльна зачыніўшы за сабой дзверы.

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## У лесе перапалох

Загаласілі лісічкі. Неахвота ім расставацца з мохавай пярынкай. Хаваюцца, бедныя, пад хвойныя лапкі. Пачынаючы ад прыпынку Маёўка, усю шашу, якая вядзе ў Баброўнікі, замілгала кошыкамі.

Бродзяць па лесе старыя і малыя. Пункты скупкі ледзь змяшчаюць грыбны ўраджай. Частыя дажджы і цёплыя ночы ўзбагацілі лес.

Жоўта між дрэвамі, жоўта ў кошыках, жоўта на базах „Ляс".

Вагоны ляснога „золата" коцяцца за мяжу. Жадаем заграннічным ласунам добрага апетыту, а нашаму Нацыянальнаму банку прыплыву дэвізаў, так патрэбных краіне.

Ясна, што не без таго, каб грыбкі — смажаныя, тушаныя, ды марынаваныя не папалі і ў нашы талеркі. Заграніцазаграніцай, а свая лыжка заўсёды бліжэй рота.

**Ларс**

## Працавітыя канікулы

Падчас жніва маці ў Грэдалях былі спакойныя за сваіх дзяцей. Ужо другі год у клубе „Рух" у вёсцы вядзецца дзяцінец. Дзеці тут адчуваюць сябе добра. У іх многа розных цацак, якія купіў Павятовы саюз сельскагаспадарчых гурткоў у Бельску Падляшскім.

Дзяцьмі ў гэтым сезоне апекаваліся дзве сімпатычныя вучаніцы з Бельска — Валя Любчэнка і Іра Маліноўская. Дзяцінец займаў клуб ад гадзіны сёмай раніцы да васемнаццатай. Пасля васемнаццатай прыходзілі ў клуб дарослыя і моладзь. Слухалі музыку, чыталі газеты, пілі каву ці аранжаду, якую ў грэдалёўскім клубе падае заўсёды ветлівая і мілая клубовая Марыся Плішко.

**Наглядальнік**




### МІР І МЫ

Калі мы будзем жыць усе ў міры  
І дружба будзе панаваць,  
Здабудзем зямлю, мора, космас,  
Адвучым людзей зло рабіць...

Прыбудзе творчасці, багацця,  
Выгодаў людскіх і дамоў.  
Абыдзе нас хвароба і няшчасце,  
Прыбудзе людскаму жыццю гадоў.

Будуем мы дваццаты век  
У міры і для шчасця  
Сваёй навукай і працай  
І нашай уласнай гордасцю.

**Яўгень Гаўрылюк**  
**Плёскі**

— Майце на ўвазе, лейтэнант, што адказнасць за прамаруджванне з пачаткам аперацыі вы бярэце на сябе.

Кругер маўчаў. Праз некаторы час ён сам запытаў у Мішэля:

— Вы даўно з Берліна?

— Вылецеў сёння ноччу. Слухайце, колькі часу будзе затрачана на гэта ваша запытанне?

— Я думаю, не больш гадзіны.

— А колькі ісці да групы?

— Аб гэтым мы паговорым пазней.

Мішэль прыкідваў: калі гадзіна спатрэбіцца на запытанне і яшчэ хаця б гадзіна шляху да групы, то ўсё будзе ў парадку, за гэты час чэкісты паспеюць ужо ацапіць раён. Добра, што ён паслухаўся парады Карла і пасля прызямлення ўстанавіў сувязь з савецкай контрразведкай. Група не выйдзе адгэтуль. Але цяпер у небяспецы Лібель. Нельга правальваць групу адкрыта. Яны могуць паспець паведаміць. Трэба любой цаной вывесці са строю рацыю. Але як? Гэты рыжы бандыт, напэўна, будзе страляць, калі пачаць супраціўляцца. Трэба чым-небудзь адцягнуць яго ўвагу.

Ён зрабіў насцярожаны твар і падняў руку.

— Увага, Кругер, вы чуеце? — і раптам Мішэль сам, на сваё здзіўленне, пачуў прыглушаны жаночы крык, які даносіўся нібы з-пад зямлі...

— Баюся, што неўзабаве ў гэтым доме яшчэ хто-небудзь закрычыць.

Выраз яго твару не абяцаў нічога добрага.

(Працяг будзе)

## У жніўні

У жніўні ў святліцы ў Дубічах Царкоўных адбылася алімпіяда сельскагаспадарчых ведаў. Удзел у ёй прыняло 19 асоб — усе, хто вучыцца на курсе сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (ПР) Дубіцкай гміны.

Пытанні, звязаныя з сельскай гаспадаркай, на першы раз не былі занадта цяжкія. Затое адказы сыпаліся хутка, што сведчыць аб добрым узроўні вучобы ў тутэйшых ПР-ах.

Журы прызнала адказы шасці ўдзельнікаў самымі лепшымі і яны ўвайшлі да фіналу.

Першая ўзнагарода была прызнана Івану Данілюку з вёскі Ягаднікі, другая — Ніне Васілюк і трэцяя — Любе Несцярук — абедзве з Грабаўца.

Гэтыя тры асобы хутка паедуць на павятовую алімпіяду сельскагаспадарчых ведаў.

Арганізатарамі алімпіяды ў Дубічах Царкоўных былі: павятовае праўленне сельгасгурткоў і гмінная сельская служба, кіраўніком якой у нас з'яўляецца Мікалай Цімафеюк, а таксама прыкладны апякун — Раіса Старасельнік.

**Мікалай Панфілюк**




**Дарагое „Сэрцайка"!**

Мне нядаўна споўнілася 18 год. У гэтым годзе я закончыла эканамічны тэхнікум і ўжо буду працаваць. Пад канец навучальнага года пазнаёмілася я з Валодзем, які працуе ў тым жа горадзе, што я вучылася. Гэта непадалёк ад маёй вёскі і Валодзя часта мяне наведваў на канікулах. Ён мне вельмі спадабаўся і я яго пакахала. Валодзя таксама мне шторазу паўтараў, што мяне кахае. Гаварыў, што са мной ажэніцца. Але, дарагое „Сэрцайка", што са мной сталася. Я адчуваю сябе цяжарнай. Я вельмі тым перанялася і сказала аб гэтым Валодзі. Але хваляванне на ім не ўбачыла. Праўда, пацяшаў мяне, каб я не перажывала і стараўся змяніць тэму размовы. А я не магу ні спаць ні есці, толькі гэта мне ў галаве. Валодзя пасля гэтай размовы абяцаў у бліжэйшую нядзелю мяне наведаць. Але ўжо мінула трэцяя, а яго няма. На дабавак, адна дзяўчына з нашай вёскі, якая працуе ў тым жа горадзе, гаварыла, што бачыла яго з шпацыраваў з нейкай дзяўчынай у парку. Я цяпер не ведаю, што рабіць? Ці паехаць да яго на работу, бо ведаю, дзе ён працуе і пагаварыць, ці бацькам сказаць, яны яшчэ нічога не ведаюць. Баюся, што будуць на мяне сварыцца. Падскажы, „Сэрцайка", нейкую раду, буду вельмі табе ўдзячна.

**Лена з Бельшчыны**

**Лена!** Якую ж тут даць табе раду, калі ты як і многія іншыя дзяўчаты, якія знайшліся ў такой сітуацыі, звяртаюцца да нас за парадай тады, калі ўжо запозна, ужо па факце. Перад усім, неадкладна скажы аб усім маці. Пэўна, што не пахваліць яна цябе за гэта, але ведай, што маці хоча толькі твайго дабра і яна найлепшы дарадчык. З Валодзем варта пагаварыць. Бо было б найлепш, каб вы пажаніліся. Але на жаль, вельмі часта здараецца, што безадказныя хлопцы, вінавайцы зла, астаўляюць дзяўчат, пакідаючы іх на ўласныя сілы, гасне раптоўна іх палымяная каханне. І калі і твая сітуацыя будзе такая, ты хутка павінна, параіўшыся з бацькамі задэцыдаваць: радзіць і потым самой выхоўваць дзіця, ці пазбыцца цяжарнасці. Калі выбярэш тэтае другое, дык мусіш ведаць, што пагражае яно бясплоднасцю часамі на ўсё жыццё. А твой неразважлівы паступак хай будзе навучкай іншым маладым дзяўчатам!

**„Сэрцайка"**




## Жніво ў гміне Шудзялава

Уборка збожжа ва ўсёй гміне закончана. Усе гаспадары і ўсе сельскагаспадарчыя гурткі даўно ўжо сабралі плёны з палёў. Першым закончыў жніво сельскагаспадарчы гурток у Паўночным Востраве.

Жыта ўрадзіла ў гэтым годзе. Дало ў сярэднім 20 цэнтнераў з гектара. Пры жніве камбайнамі ў гэтым годзе ў сельскагаспадарчых гуртках Шудзялава, Бабікі і Крынкі была застасавана новая форма ўборкі збожжа — калектыўная. Да аднаго гуртка прыязджалі ўсе камбайны з суседніх гурткоў, па 10—12 машын, а нават і болей. Прыязджала таксама тэхнічная дапамога з ПОМ-у ў Саколцы. Яна на месцы трымала дыжурства. Калі ў камбайне нешта псавалася, адразу праводзіўся рамонт. І такім чынам хутка і спраўна ішла праца. Сабралі збожжа з болей як паўтары тысячы гектараў.

Такі спосаб уборкі аказаўся вельмі карысны. Калі раней кожны гаспадар збіраў паасобку, бывалі вялікія перастоі ў працы машын, — бо тэхнічная дапамога не магла адразу да ўсіх прыехаць. Часта збіралася па 5—6 вызаваў у дзень, а ў такім выпадку хоць ты разарвіся, але ўсюды не паспееш. І стаялі, бывала, гадзінамі, а то і днямі, машыны ў Бабіках, Крушынянах, Піражках. Пры новай тактыцы ўборкі ўсё змянілася на лепшае.

У гэтым годзе многа камбайнаў з сельскагаспадарчых гурткоў памагала ў жніве прыватным гаспадарам, пераважна ўдовам, інвалідам і старым.

* * *

Перадавікі сельскагаспадарчай прадукцыі з Сакольшчыны пабывалі на Цэнтральных дажынках у Беластоку. З Шудзялоўскай гміны на Цэнтральных дажынках было 80 дэлегатаў. Яны — найлепшыя гаспадары і працаўнікі сельскай гаспадаркі. Гэта людзі добрай работы. А вось некаторыя з іх: старшыня сельгасгуртка ў Слойцы — Эдвард Чарэмха, які мае закантрактаваных 40 вяпрукоў, Эдвард Ляўковіч з Новага Трысцінога, які з 6-гектаровай гаспадаркі прадае ў год 30 вяпрукоў, Іван Федзюкевіч з Слоі, які гаспадарыць на 6-ці гектарах і ў гэтым годзе ўжо прадаў 2 вольцы і 10 вяпрукоў (ён адзначаны дыпломам Павятовай рады нарадовай у Саколцы), Браніслаў Крушынекін — солтыс вёскі Бароўшчына, які прадае ў год 35—40 вархлякаў, Юрый Чарэмха — дыспазітар у сельскагаспадарчым гуртку ў Паўночным Востраве.

**А.С.**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### АДКАЗВАЕ ПРЭЗІДЫУМ ПАВЯТОВАЙ РАДЫ НАРАДОВАЙ У БЕЛАСТОКУ

W związku z notatką, która ukazała się w czasopiśmie „NIWA", dotyczącą zaopatrzenia Gródka w masę mięsną, Prezydium Powiatowej Rady Narodowej w Białymstoku informuje, że zaopatrzenie w mięso i jego przetwory nie pokrywa w pełni popytu rynku na te artykuły.

Zgodnie z wytycznymi Władz Centralnych i Prezydium Wojewódzkiej Rady Narodowej w Białymstoku w sprawie zaopatrzenia w masę mięsną, należy zaopatrywać w pierwszej kolejności ośrodki robotnicze.

Wydział Handlu Przemysłu i Usług Prezydium Powiatowej Rady Narodowej przy podziale puli mięsnej zwraca uwagę, aby miejscowości o większym skupieniu robotniczym otrzymywały większe przydziały, natomiast rejony rolnicze zaopatrywane są w miarę posiadanych możliwości.

Przy otrzymywaniu większych przydziałów z Prezydium WRN zwiększa się przydział dla GS Gródek.

Dla informacji podaje się porównanie przydziałów masy mięsnej z okresu pięciu miesięcy roku bieżącego do analogicznego okresu roku ubiegłego:

| miesiąc | masa mięsna | konserwy | masa mięsna | konserwy |
|---|---|---|---|---|
| marzec | 3000 kg | 180 kg | 4300 kg | 500 kg |
| kwiecień | 3400 kg | 280 kg | 4400 kg | 480 kg |
| maj | 2900 kg | 270 kg | 4450 kg | 710 kg |
| czerwiec | 2700 kg | 480 kg | 4200 kg | 550 kg |
| lipiec | 3900 kg | 1400 kg | 5300 kg | 1600 kg |
| Razem | 15900 kg | 2610 kg | 22650 kg | 3840 kg |

Jak z powyższego wynika, to za okres pięciu miesięcy roku bieżącego GS Gródek otrzymał o 6750 kg masy mięsnej i 1230 kg konserw więcej niż w analogicznym okresie roku ubiegłego.

W roku bieżącym zwiększono przydziały mięsa i konserw, biorąc pod uwagę rozbudowę zakładów produkcyjnych na terenie Gródka.

Sytuacja jest nieco trudna ze względu na nie zakończenie remontu i rozbudowy masarni w Gródku. Z chwilą zakończenia budowy i uruchomienia masarni będą możliwości odkupu gospodarczego od rolników, co w pewnym stopniu wpłynie na poprawę zaopatrzenia Gródka w mięso i przetwory mięsne.

Nadmienia się, że w miarę zwiększenia przydziałów masy mięsnej i konserw z Prezydium WRN, będą zwiększane przydziały dla Gminnej Spółdzielni w Gródku.

Z-ca Przewodniczącego Prezydium PRN  
**mgr inż. Edward Klepacki**




**М. Матвеюк.** Цялушкі. Папраўлены верш „Півавары" дайшоў да нас. Асаблівае дзякуй за цікавыя інфармацыі. Такія інфармацыі як пра тых, якім трэба памагчы ў жніво, ці пра Пецю Себастыянюка нам надта ж падыходзяць. Атрымалі і здымак з вёскі Качалы.

**Ларс.** Давай, брат, інфармацыі на падабенства апошняй „Ці не за рогі, ці за хвост".

**В. Бура.** Дзякуем за матэрыялы. Чакаем на далейшыя. І, зразумела, пісаныя па-беларуску. Так лепш і вам, і нам.

**М. Панфілюк.** Дубічы Царкоўныя. Дзякуем за тры цікавыя інфармацыі і за тое, што ніколі не падводзіце, як наш карэспандэнт.

**Нестар Перавой.** Бельск. Цешымся, што адзін з нашых найстарэйшых па ўзросту і па стажу працы карэспандэнт так актывізаваўся. Вашы інфармацыі атрымалі. Жадаем далейшага крытычнага погляду.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Gangsterski walc" (franc.), 18—19. „Motyle" (polski), 20—21. „Benjamin, czyli pamiętnik cnotliwego" (franc.), 22—23.

**Чаромуха**

„Pokusa" (włoski), 18—19. „Tino Rinelt porwany" (NRD), 22—23.

**Нараўка**

„Zaproszona" (franc.), „Uciekaj i daj się złapać" (polski), 19—23.

**Нарва**

„Rzeczpospolita babska" (polski), „Rok pierwszy" (polski), 19—23.

**Дубічы Царкоўныя**

„Małżeństwo" (franc.), „Poślizg" (polski), 19—23.

**Арэшкава**

„Na krawędzi" (polski), „Bez wyraźnych motywów" (franc.), 22—23.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Minuta milczenia" (radz.), 22—23.

**Міхалова**

„Dwaj dżentelmeni we wspólnym mieszkaniu" (radz.), 18—19. „Opowieść do poduszki" (USA), 20—21. „Błąd szeryfa" (NRD), 22—23.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Sklep z modelkami" (USA), 18—19. „Roztargniony" (franc.), 20—21. „Pokój przechodni" (NRD), 22—23.

**Мілейчыцы**

„Wahadło" (USA), 18—19. „Roztargniony" (franc.), 20—21 „Wesele" (polski), 22—23.

**Ніва**

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch". Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa", Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicyści 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł, półrocznie: 14,40 zł, kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty na prenumeratę indywidualną dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch" w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch". Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch", Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40 proc. Nr indeksu 36911

BZGraf. Nakład 7.186 K-3



 

